

# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

№ 2 (648)
Люты 2020 г.

Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

# Фальшывае змаганьне супраць элітаў

Здаецца, ня так ужо і цяжка распазнаць адну і тую ж схему, калі яна паўтараецца шмат разоў, але грамадзтва раз за разам трапляе ў адну і тую ж пастку глябалістаў. Клясычная тактыка, якую яны выкарыстоўваюць, каб вызначаныя імі палітычныя марыянэткі заваявалі давер народу – гэта заахвочваць іх выкарыстоўваць антыглябалісцкую рыторыку, а потым запоўніць кабінэты ўраду такімі ж людзьмі, якія там і сядзелі. Праўдападобна, правіла палітыкі гучыць так: гавары, што хочаш, каб перацягнуць людзей на свой бок, але калі ты ў офісе, то рабі тое, што скажам мы...

Кандыдаты будуць агрэсіўна нападаць на банкі і карпарацыі, лямантаваць пра зьнішчэньне сярэдняй клясы, казаць пра супэрбагаты 1%, які кантралюе больш багацьця, чым бяднейшая палова грамадзянаў. Яны будуць заклікаць да "пераменаў", каб вярнуць сыстэму назад у баланс, будуць распавядаць пра злачынствы банкаўскай мафіі і вышэйшага эшалёну бізнэсоўцаў. Яна правядуць выдатны спэктакаль, а тады вернуцца да роляў, адведзеных ім рэжысэрамі. Амэрыканскі народ заўсёды прайграваў у выбарах "народнага кандыдата".

Карыснымі тут будуць прыклады зь недалёкай гісторыі. Возьмем Джымі Картэра. Ён пачаў прэзыдэнцкую кампанію толькі з 4% прыхільнікаў у сваёй Дэмакратычнай партыі. Але падтрымка пачала імкліва павялічвацца, калі ён стаў нападаць на вашынгтонскіх інсайдэраў, элітыстаў, што кіруюць з-за кулісаў. Мэдыі пачалі падносіць Картэра як палітыка незаплямленага сувязямі з глябалістамі. Гэта быў той імідж, якога патрабавала грамадзтва ў той час. І вядома ж, як толькі ён перабраўся ў Белы дом, дык адразу ж прызначыў на ключавыя пасады ў сваёй адміністрацыі зь дзясятак сяброў Трохбаковай камісіі (Trilateral Commission – міжнародная глябалісцкая пазаўрадавая арганізацыя) і мноства іншых элітыстаў. Глябалісты выдатна ведалі, чаго хацела грамадзтва ў той час, і далі яму гэта ў выглядзе Джымі Картэра.

Яшчэ адзін прыклад, Роналд Рэйган, антыпод Картэру. Кансэрватыўны (былы дэмакрат) Рэйган не баяўся зьвярнуць увагу на тое, што Картэр быў абсаджаны крывацмокамі глябалістаў і ставіў пад сумніў ягоную шчырасьць. Рэйгана, як і Картэра падчас выбарчай кампаніі, малявалі асобаю, не зьвязанаю з элітамі. Ён быў чысты і незаплямлены. І раптам пасьля абраньня ён таксама хутка прызначыў няменш дзясятка сяброў ТК у сваю пераходную каманду, а потым амаль заўсёды верна абслугоўваў інтарэсы элітаў падчас сваіх двух тэрмінаў прэзыдэнцтва пад пільным наглядам Джорджа Буша-старэйшага.

Калі вы пачалі заўважаць падабенства, то вы ўважлівейшыя, чым большыня грамадзянаў ЗША. Глябалісцкія эліты не адрозьніваюцца разнастайнасьцю і пракручваюць тую ж самую схему раз за разам зь невялікімі варыяцыямі, каб пастаноўка здавалася новаю і сьвежаю. Вы таксама павінны заўважыць, што Доналд Трамп, трымаючыся іміджу антыглябаліста, упэўнена крочыць тым жа шляхам.

Трамп вёў сваю кампанію як папуліст і апанэнт элітаў. Ён крытыкаваў Гіляры Клінтан за сувязі з банкамі і абяцаў "асушыць балота" ў Вашынгтоне. Ён таксама абвінавачваў Фэдэральны рэзэрв у раздуваньні штучнага буму на рынку акцыяў праз заніжаныя працэнтныя стаўкі. Трамп быў яшчэ адным ахвярным змагаром гатовым для бітвы з глябалісцкімі цмокамі.

Чаму мы сталі сьведкамі, Трамп нічым не адрозьніўся ад Картэра і Рэйгана пасьля абраньня. Ён адразу ж прызначыў на адказныя пасады прадстаўнікоў Рады па Міжнародным Адносінам (Council on Foreign Relations – амэрыканская глябалісцкая арганізацыя) і банкаў. Уілбар Рос, прадстаўнік банкаўскай сям'і Ротшыльдаў, пазыкі якой дваццаць гадоў таму выратавалі Трампа ад банкруцтва, стаў у яго міністрам гандлю.

Трамп цалкам зьмяніў свой погляд на эканоміку, цяпер ужо ставячы сабе ў заслугу імклівы рост коштаў на рынку акцыяў. Гэтым ён прывязаў сябе, сваю адміністрацыю і сваіх прыхільнікаў да гэтай бурбалкі, якая ў хуткім часе павінна лопнуць і прывесьці да цяжкага спаду. Сёньня, калі грамадзтва ў вялікай меры згубіла давер да масавых мэдыяў, чым болей тыя крытыкуюць Трампа, тым больш яго падтрымлівае кансэрватыўная і незалежная частка грамадзтва. У сёньняшняй пастаноўцы пад назваю "Новы сусьветны парадак" глябалісты адводзяць Трампу самую важную ролю, ён павінен стаць сымбалем антыглябалізму, увасобіць у сабе ўсё патрыятычнае і свабодалюбівае, каб пацягнуць іх пасьля краху разам з сабою ў небыцьцё. Іншымі словамі, калі эканамічная бурбалка пад Трампам лопне, то патрыёты і кансэрватары аўтаматычна разам з Трампам стануць у гэтым вінаватымі.

Для элітаў Трамп, выконваючы ролю праціўніка, паслужыць тым, што возьме на сябе віну за будучы эканамічны калапс, які яны самыя і стварылі. А што будзе пасьля Трампа? Хто наступны ў чарзе на галоўную ролю ў тэатры для амэрыканскіх масаў? Тут важна яшчэ раз нагадаць, што эліты ня маюць багатага ўяўленьня, але маюць багаты досьвед. Можна быць упэўненым, што будзе прадстаўлены кандыдат, які адназначна антытрампаўскі, але здольны падхапіць справу там, дзе той яе пакіне. Сёньня самым праўдападобным кандыдатам выглядае Элізабэт Ўорэн...

Яна тая самая асоба, якую ня зьвязваюць з істаблішмэнтам. Яе вобраз, дачкі прыбіральшчыка зь Сярэдняга Захаду, якая сама дасягнула посьпеху ў "сьвеце мужчын", усяляк прасоўваецца масавымі мэдыямі. Ўорэн выглядае дакладным палітычным антытэзісам Трампу і найбольш верагодным кандыдатам Дэмакратычнай партыі. Ведаючы папярэднія спэктаклі сцэнар пішацца сам. Амаль ва ўсім яна паўная супрацьлегласьць сёньняшняму прэзыдэнту, ад паходжаньня да поглядаў. І, вельмі важна, яна адзіны ў дэмакратаў кандыдат, хто прадказвае хуткі эканамічны крах. Усё складваецца цудоўна, і бедная дзяўчына з Акляхомы, урэшце, перамагае пачварнага мільярдэра, а разам зь ім і 1% багачоў. Амэрыканцы вельмі любяць прымітыўныя галівудзкія сюжэты.

Папулярнасьць Ўорэн усяляк раздуваюць мэдыі. Што тычыцца прапанаванага ёю падатка на супэрбагатых, то пры дасканалым разглядзе відаць, што нічога

заканчэньне на бачыне 3

# Студзеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 11 студзеня 2020 г., у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў студзеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і павіншаваў з Новым годам, а таксама азнаёміў прысутных з мэтамі й задачамі арганізацыі і распавёў аб прайшоўшых імпрэзах за мінулыя некалькі месяцаў, у прыватнасьці закрануў тэму абароны незалежнасьці Беларусі, і шэраг акцыяў, якія прайшлі ў лістападзе-сьнежні 2019 году ў знак пратэсту супраць так званай “паглыбленай інтэграцыі” Беларусі з Расеяй і ў падтрымку сувэрэнітэту і незалежнасьці Бацькаўшчыны. Далей прамоўца спыніўся на плянах арганізацыі на гэты год і нагадаў, што сходы адбываюцца, як заўсёды, у кожную другую суботу кожнага месяца.

Затым перад прысутнымі выступіла сакратар Згуртаваньня “Пагоня” спня Валянціна Якімовіч. Яна распавяла пра свой жыцьцёвы шлях і пра досьвед пачатку эмігранцкага жыцьця ў Амэрыцы, пра свае спробы вывучэньня ангельскай мовы, у тым ліку падчас навучаньня на архітэктурным факультэце ў Менску і пазьней у ЗША. Таксама спня Якімовіч паведаміла пра традыцыйныя абрадныя ўрачыстасьці Гуканьня Вясны і Купальля, якія неўзабаве прыходзяць. Яна таксама паведаміла, што сёлета яе папрасілі беларусы Каліфорніі і сп-ня Надзея Нортан правесьці Гуканьне Вясны ў Каліфорніі, што яна з задавальненьнем пагадзілася зрабіць.

Пасьля слова ўзяў сп. Зьміцер Левіт, які выступіў з гутаркаю пад назваю “Мова, на якой мы гаворым”. Напачатку сп. Левіт распавёў пра сябе і свой удзел у адраджэнскім руху канца 1980-х гадоў, аб распаўсюдзе адраджэнскай прэсы і беларускай нацыянальнай сымболікі. Потым, аднак, справы пайшлі, нажаль, зусім ня так, як марылася ў тыя гады. Паднялі галаву



пракамуністычныя і прарасейскія сілы, савецкая інэрцыя і разьяднанасьць незалежніцкіх сілаў, урэшце рэшт, прывялі да фэномэну прэзыдэнцтва Лукашэнкі. Таксама ўціскалася прадпрыймальніцкая дзейнасьць, і сп. Левіт вырашыў эміграваць у Амэрыку, дзе, ён лічыў, можа рэалізаваць сябе набольш адпаведным чынам.

У Амэрыцы працаваў таксістам ў кар-сэрвісе і заўсёды спрабаваў апавядаць пра Беларусь, пра яе гісторыю. Але што ж гэта за мова, на якой мы імкнемся размаўляць пра Беларусь? Мы, як выхадцы з саветаў, размаўляем на камуністычным навамове (“нававяз”), так як нас вучылі скрозь праз сыстэму адукацыі ў школе і вышэйшых навучальных установах. Нам убівалі ў галовы паняцьці будаўніцтва камунізму, перамогі сацыялістычнага ладу, але таксама і паняцьці “Кіеўская Русь”, “узьяднаньне Беларусі з Расеяй”, “братэрства савецкіх народаў”, “усенародная барацьба супраць нямецкіх акупантаў”. Каб растлумачыць усе гістарычныя пытаньні, трэба сьцерці ўсю гэтую лухту і пачаць усё выкладаць нанова. Так, нас вучылі ў школе, што падзелы Рэчы Паспалітай, “панскай эксплюататарскай дзяржавы” – гэта зьява прагрэсіўная, бо народы гэтай дзяржавы, нібыта, заўсёды змагаліся супраць польскіх фэадалаў і праглі злучыцца з Расеяй. Але нам ніколі не казалі, што Расея мела калёніі, і што Беларусь стала менавіта адной з такіх калёніяў. Таму калі некаму карціць сказаць, што ён расеец, каб менш трэба было тлумачыць, і каб амэрыканцам было больш зразумела – дык лягічна тады сказаць, што я прыехаў з былой расейскай калёніі – такая мова дакладнейшая, чым менаваньне сябе расейцам.

Далей сп. Левіт закрануў шэраг гістарычных пытаньняў, якія выклікалі цікавасьць прысутных. Затым адбыліся невялікія дыскусіі па тэмах, што сп. Левіт закрануў у сваёй гутарцы, і абмеркаваньне аргумэнтацыі прамоўцы.

Напрыканцы, у разьдзеле “Рознае”, адбыліся знаёмствы з асобамі, што першы раз прыйшлі на сход Згуртаваньня “Пагоня”, а затым прысутныя мелі нагоду калегавацца і працягнуць знаёмствы пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***

## Фальшывая вайна

*заканчэньне з бачыны 1*

радыкальнага ў ім няма. Такія багачы як Б. Гейтс і Ў. Бафэт самыя прапаноўвалі падобнае.

Э. Ўорэн шматразова прыхільна ўзгадвалася ў часапісе “Foreign Affairs”, афіцыйным выданьні Рады па Міжнародным Адносінам (РМА). У дадатак да гэтага там быў апублікаваны яе праграмны артыкул. Для тых хто ня ведае, РМА – галоўная глябалісцкая арганізацыя, сьпіс сяброў якой перапоўнены мільярдэрамі элітыстамі, зь якімі Ўорэн, быццам бы, ня мае ніякіх сувязяў. Тым ня менш, яны шматразова добра адгукаліся пра яе, як і яна пра іх.

Другі цікавы факт тое, што “Foreign Affairs” не друкуе артыкулы кандыдатаў у прэзыдэнты вельмі часта. А калі такое і здараецца, то той кандыдат, хучэй за ўсё, потым становіцца прыдэнтам альбо атрымлівае падтрымку сяброў РМА і грашовыя ўліваньні. Прыкладамі таму Рычард Ніксан і Барак Абама, артыкулы якіх былі надрукаваныя ў часапісе перад пачаткам прэзыдэнцкі кампаніяў, а аўтары потым пераехалі ў Белы дом. Выглядае, што сам факт публікацыі артыкула кандыдата ў гэтым выданьні ёсьць сыгналам, што гэты кандыдат можа быць карысным глябалістам. На сёньня яна адзіная чый артыкул зьявіўся ў “Foreign Affairs”.

Ці значыць гэта, што элітысты канчаткова паставілі на Элізабэт Ўорэн? Не абавязкова. Пакуль яшчэ занадта рана, каб можна было вызначыць тэндэнцыі наступных выбараў і ўпадабаньні электарату. Вясною, напэўна, карціна будзе ясьнейшаю.

У любым выпадку, правіла застаецца тым жа, што і раней, кожны кандыдат з сур’ёзнымі намерамі кантралюецца альбо шукае саюзу з элітамі. Электаральны працэс цалкам сплянаваны. Сумленным людзям не дазваляюць прасьлізнуць праз гэтую сетку. Рэдкіх тых, хто прасьлізвае і пачынае набіраць папулярнасьць, высьмейваюць, а потым ігнаруюць да таго часу пакуль іх кампанія не затухае.

Кандыдаты, што абслугоўваюць эліты, атрымліваюць неабмежаваную ўвагу мэдыяў, часам пазытыўную, часам нэгатыўную, але ніколі не ігнаруюцца. І, самае галоўнае, кандыдат, які хучэй за ўсё стане прэзыдэнтам, будзе заўсёды прыкідвацца ворагам істаблішмэнту. Гэта тое, што падкупляе амэрыканскае грамадства, і глябалісты гэта выдатна ведаюць. Элізабэт Ўорэн крочыць находжанай сьцежкай, як дагэтуль ішоў Доналд Трамп.

***Я. З.***

Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Радаслаў Астроўскі, палітычны і грамадзкі дзеяч



У лёсе беларускага адраджэнца і палітыка Радаслава Астроўскага адлюстравалася цэлая гісторыя Беларусі 20-га стагодзьдзя. Будучы дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі, прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, публіцыст і намінальны кіраўнік адной з асноўных плыняў у беларускай паваеннай эміграцыі Радаслаў Астроўскі нарадзіўся 6 лістапада 1887 году ў фальварку Запольле на Случчыне. Бацька Радаслава лічыўся месьцічам Нясьвіжу, напэўна, паходзіў зь безьзямельнай шляхты, займаўся земляробствам на арэндаванай зямлі. Радаслаў навучаўся ў слуцкай духовай вучэльні, а затым у Слуцкай гімназіі, зь якой быў выключаны за ўдзел у забурэньнях падчас рэвалюцыйных падзеяў 1905 году. Затым Радаслаў Астроўскі паступіў у 1908 годзе на матэматычны факультэт Пецярбургскага ўнівэрсытэту. Ён быў арыштаваны за ўдзел у студэнцкіх хваляваньнях у 1911 годзе і быў зьняволены ў турмах Пецярбурга і Пскова. Пасьля вызваленьня жыў у бацькоў на Пружаншчыне пад наглядам паліцыі. Скончыў там фізыка-матэматычны факультэт Дэрпцкага (Юраўскага, цяпер Тартускі) унівэрсытэту. Працаваў настаўнікам матэматыкі ў гімназіях у Чанстахове (Польшча) і ў Менску, і ў 1915—1917 выкладаў у Менскім настаўніцкім інстытуце, быў разам з інстытутам на эвакуацыі ў горадзе Яраслаў (Расея).

Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году вярнуўся ў Беларусь, быў камісарам Часовага ўраду па Слуцкім павеце, быў сябрам партыі Беларуская Сацыялістычная Грамада, абіраўся дэлегатам на яе зьезды і канфэрэнцыі, стаў сябрам ЦК гэтай партыі. У верасьні 1917 году Радаслаў Астроўскі арганізаваў першую беларускую нацыянальную сярэднюю школу – Слуцкую Народную Агульную Гімназію Хаўрусу Настаўнікаў, і стаў яе дырэктарам. Ад імя гэтай гімназіі ў сьнежні 1917 году Радаслаў Астроўскі, як дэлегат, вітаў Першы Ўсебеларускі Зьезд. Астроўскі актыўна выступаў у друку супраць спробаў бальшавікоў захапіць уладу ў Беларусі, падтрымліваў ідэю незалежнасьці. У лютым 1918 ён увайшоў у першы склад Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Слуцку, які адразу стаў на бок Рады і Ўраду БНР. Пры фармаваньні ўраду БНР даў згоду ўвайсьці ў кабінэт Рамана Скірмунта. У ліпені 1918 Рада БНР зацьвердзіла Р. Астроўскага на пасадах намесьніка старшыні Народнага Сакратарыяту і народнага сакратара асьветы БНР.

Увосень 1920 году Р. Астроўскі ўваходзіў у склад ураду пры генэрале С. Булак-Балаховічу, Беларускага Палітычнага Камітэту, і меў пасаду міністра асьветы. Па некаторых зьвестках, Астроўскі браў удзел у Слуцкім Збройным Чыне. Пасьля падзелу Беларусі ў выніку Рыскай дамовы, Астроўскі апынуўся ў Заходняй Беларусі. Маючы арганізацыйны і пэдагагічны досьвед, працаваў дырэктарам Віленскай Беларускай Гімназіі (1924—36). У грамадзкай і палітычнай дзейнасьці спрабаваў дабіцца падтрымкі ад польскага ўраду для беларускіх арганізацыяў і ў 1924 утварыў Польска-Беларускае Таварыства. Пасьля няўдачы ў гэтай справе стаў хіліцца ўлева і супрацоўнічаў з КП(б)Б і КПЗБ, нават курыраваў падпольную камсамольскую структуру ў сваёй гімназіі. У 1925—26 быў намесьнікам старшыні ЦК Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, старшынём Таварыства Беларускай Школы, Беларускага Дабрачыннага Таварыства. Таксама Астроўскі зьяўляўся дырэктарам Беларускага кааператыўнага банку ў Вільні, праз які праходзілі сродкі Саветаў на фінансаваньне Грамады.

У студзені 1927 году Астроўскі быў арыштаваны польскімі ўладамі, быў у турмах Лукішкі, Уронкі. На судовым працэсе “56-ці” супраць Грамады (БСРГ) Астроўскі быў апраўданы. З 1928 году ён прапагандаваў ідэі супрацоўніцтва з польскай санацыяй. У 1929 годзе Астроўскі стаў адным з ініцыятараў стварэньня Беларускага прафэсійнага настаўніцкага саюзу. З ягонай ініцыятывы 15 беларускіх культурна-асьветных і гаспадарчых арганізацый і ўстаноў у 1930 стварылі Цэнтральны Саюз (Цэнтрасаюз), які ставіў задачаю нацыянальнае разьвіцьцё з арыентацыяй на Польшчу, што было рэалістычным крокам, улічваючы згортваньне беларусізацыі й перасьлед беларускіх дзеячоў у БССР і стабілізацыю польскага кантролю ў Заходняй Беларусі.

У гэтай сытуацыі ў 1931 годзе была створаная арыентаваная на цэнтрысцкае антыкамуністычнае аб’яднаньне Цэнтрасаюз студэнцкая карпарацыя “Скарынія”. У 1930 годзе беларускім дзеячам удалося дамагчыся адкрыцьця ў Вільні беларускай настаўніцкай сэмінарыі імя Ф. Багушэвіча, і Астроўскі стаў дырэктарам гэтай установы па сумяшчальніцтве. У 1932 годзе паўстала таксама Таварыства Беларускай Асьветы (ТБА), галоўны прынцып якога заключаўся ў тым, каб пазьбегнуць непажаданага ўплыву левых палітычных рухаў на культурна-асьветную працу. Гэтым ён настроіў супраць сябе многіх дзеячаў заходнебеларускага нацыянальнага руху, якія ў траўні 1934 – сьнежні 1935 правялі над ім грамадзкі суд. Тут трэба адзначыць, што Астроўскі быў не беспрынцыпным чалавекам, што яму спрабавалі закідаць, але прагматычным палітыкам, які ўспрымаў сытуацыю і зьмены ў ёй праз прызму скарыстаньня абставінаў на карысьць беларускай справе.

Пад псэўданімам “Эра” Астроўскі друкаваўся ў беларускім пэрыядычным друку, кнігах-календарах, у газэце “Родны край” (1933-1936). У сярэдзіне 1930-х гадоў націск польскіх шавіністычных сілаў узмоцніўся, і ў 1936 годзе Астроўскі быў вымушаны пакінуць Вільню і пераехаць у Лодзь, дзе працягваў настаўніцкую дзейнасьць.

З пачаткам Другой сусьветнай вайны Радаслаў Астроўскі, у ліку іншых нацыянальных дзеячаў, паставіў на нацыстоўскую Нямеччыну як на сілу, што можа дапамагчы ў пераадоленьні расейскіх і польскіх уплываў у цяпер ужо аб’яднанай Беларусі. Дзеля гэтага Астроўскі актыўна супрацоўнічаў з акупацыйнымі ўладамі. Увосень 1941 году ён прыехаў у Менск, дзе працаваў у цывільнай адміністрацыі. Пасьля Астроўскі быў бургамістрам у Смаленску, Бранску і Магілёве. У 1943 годзе ён прызначаны старшынём Беларускай Рады Даверу пры генэральным камісарыяце Беларусі. Пазьней, у канцы 1943 году, нямецкія акупацыйныя ўлады палічылі патрэбным дазволіць на абшары генэральнай акругі Беларусь дзяржаўна-адміністрацыйнае ўтварэньне Беларускую Цэнтральную Раду (БЦР), якое, на іхнюю думку, магло б больш аптымальна служыць

*заканчэньне на бачыне 4*

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Мікрарэвалюцыя

Кінуў нядаўна позірк на інтрыгуючы надпіс на антысэптыку для рук (hand sanitizer). Прыгадалася, як мая канзаская сяброўка ўціrала яго сабе ў скуру рук пасьля кожнага дакрананьня да нечага, што ў ейным разуменьні несла біялягічную пагрозу. Праўда, яна і сама не адмаўляла, што гэта ў яе ў фармацe фобіі.

Дык вось што гэта за таямнічае “Kills 99,99% of germs”? Што гэта за супэрбактэрыя зь няменш інтрыгоўнай пазыўной 0,01? І чаму гэтым яшчэ не




зацікавіўся авангард эмансыпацыйнага фронту? Хто абароніць астатнія 99,99%? Хто спыніць гэты бацылацыд? Хто заступіцца за вірусы, бактэрыі, палачкі, споры і іншых мутантаў і паразытаў? Што значыць “сродак забівае”? Нельга забіваць жывое (з малым выключэньнем)! Гэта не экалягічна! Рукі трэба выціраць аб штаны, а лепш зусім не выціраць! А ўявіце, што вы паручкаліся зь нябелым, негетэрасэксуальным мужчынам, ці, ня дай божа, жанчынай, а пасьля ўзялі і ўжылі антысэптык. Бацылафоб! Гэрманацык! Вірусаненавісьнік! Патагены ўсіх краін яднайцеся! Свабоду Патагоніі! Свабоду Патагоніі! Свабоду Патагоніі!

**Віталь ВОРАНАЎ**

## Радаслаў Астроўскі

***заканчэньне з бачыны 3***

патрэбам вайсковага высілку ў вайне і паўстрымаць пашырэньне савецкай партызанскай дзейнасьці. Зь беларускага незалежніцкага боку гэта ўспрымалася як мажлівасьць стварыць сваю адміністрацыю і ўзброеныя сілы (БКА), запабегчы пашырэньня польскіх і савецкіх уплываў на жыхароў Беларусі.

Са сьнежня 1943 году прэзыдэнтам БЦР стаў Радаслаў Астроўскі. Пад ягоным кіраўніцтвам былі арганізаваныя мясцовыя структуры БЦР і, пазьней, Беларуская Краёвая Абарона (БКА). БЦР фактычна стала беларускім нацыянальным урадам, функцыі якога распаўсюджваліся на ўсе сфэры жыцьця. Р. Астроўскі стаў адным з галоўных арганізатараў Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ў чэрвені 1944 году. У Другім Ўсебеларускім Кангрэсе браў удзел шэраг дзеячоў, у тым ліку Астроўскі, якія былі таксама дэлегатамі Першага Ўсебеларускага Канрэсу 1917 году. Кангрэс абвесьціў сябе вышэйшым паўнамоцным прадстаўніцтвам беларускага народу, адкінуў, як неправамоцныя, усе дамовы БССР і самую як кштaлт беларускай дзяржаўнасьці. Кангрэс пацьвердзіў Назалежнасьць Беларусі, абвешчаную 25 сакавіка 1918 году, і праклямаваў БЦР правапераемніцай Рады БНР. Неўзабаве пасьля Кангрэсу Р. Астроўскі выехаў у Нямеччыну, дзе застаўся жыць.

Дзейнасьць БЦР, прыпыненая ў 1945 годзе, была адноўленая ў 1948 годзе. Калі ў свой час БЦР адыграла станоўчую ролю па абароне беларусаў і беларускай нацыянальнай ідэі, яе паваенная дзейнасьць выклікала канфлікты ў беларускім асяродзьдзі на чужыне. Тым ня менш прыхільнікі БЦР стварылі моцны асяродак беларускасьці ў Амэрыцы (Саўт-Рывэр, Н. Дж.), і ў некаторых іншых краінах, займаліся грамадзкай дзейнасьцю, выдавецкімі справамі, падтрымлівалі рэлігійнае праваслаўнае жыцьцё. Радаслаў Астроўскі быў кіраўніком і ідэёлягам “бэцээраўскай” плыні ў Амэрыцы і ў сьвеце.

У 1962 годзе Астроўскі пераехаў у ЗША, і ў гэтым жа годзе прыпыніў сваё прэзыдэнцтва, а праз гэта і дзейнасьць БЦР, але яна была ім адноўленая ў 1974 годзе. Памёр Радаслаў Астроўскі ў 1976 годзе, пахаваны на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, Н. Дж.

У савецкай Беларусі Р. Астроўскага цэлы час бэсьцілі як “фашыстоўскага памагатага” і “саўдзельніка ў злачынствах” нямецкіх акупантаў. На больш цьвярозы і аб’ектыўны пагляд, Р. Астроўскі быў прагматычным палітыкам, які імкнуўся скарыстаць міжнародную каньюнктуру на карысьць Беларусі, заціснутай паміж значна моцнейшых і схільных да шавінізму краінаў. Гэтая дзейнасьць у нялёгкія часы Другой сусьветнай вайны яшчэ чакае на больш удзячных і разважлівых нашчадкаў.

**Віталь ЗАЙКА**

### Уплаты ў Згуртаваньне

**Складкі й ахвяраваньні:**

М. Івашчанка ............60
А. Міхневіч ...............60
А. Паторскі ...............60

**Усім шчыры дзякуй!**

### Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

**Аплаціць складкі можна таксама на штомесячных сходах.**

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **8-га лютага 2020 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынку **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Вескі й Паведамленьні*:

В. Кузьменка ..............60
М. Івашчанка ............30
А. Курушка ................30
А. Паторскі ................30
А. Пранцэвіч ..............30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*